Беларуская газета

sumezhzha

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі,
Любі сваю ніву, свой край.
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй і засявай!

Я. КУПАЛА



# СУМЕЖЖА

№ 22 (122) Заснавана ў 1991 годзе. кастрычнік 2001 г.

# Правінцыйныя хронікі

*(Паўночны Захад: хронікі і падзеі)*



## Зберагаючы даўнія традыцыі

З даўняга часу славіўся Пастаўскі раён сваімі багатымі музычнымі традыцыямі, працягам якіх стаў штогадовы міжнародны музычны фестываль народнай музыкі. Аналагаў створаных у гэтай мясцовасці груздаўскіх дыятанічных цымбалаў больш няма нідзе ў свеце. Каб не парывалася сувязь часу, у райцэнтры пачалася падрыхтоўка па стварэнню музея традыцыйнай музычнай культуры Пастаўшчыны. Вядзецца яна не на пустым месцы. За два апошнія гады з 14 да 22 вырасла колькасць фальклорных музычных калектываў, з якіх - 9 дзіцячыя. Створаны і аўдыёархіў песеннай народнай культуры. З дапамогаю мясцовых спонсараў для будучага музея падрыхтаваныя першыя дзесяць стэндаў, якія паказваюць творчы шлях знакамітага яшчэ з саракавых гадоў мінулага веку Груздаўскага цымбальнага аркестра, чые традыцыі зараз з поспехам працягваюць ансамбль-капэла «Паазер'е», а таксама калектывы з Варапаева і Лынтуп.

## Усохла «блакітная ніва»

Па частцы ўсемагчымых пертрусаў і цяжкасцяў цяперашні год для калектыва рыбгасу «Навінкі», засланіў усе ранейшыя. Вясной з-за раптоўнага пацяплення ў трох сажалках з сямі вырошчваемых тут, карп захварэў на чырвонку. Тады ўдалося падавіць асяродкі інфекцыі. Але налавіць за сезон 380 тон таварнай рыбы не атрымалася, хаця прыродныя ўмовы для росту карпаўтаўсталобікаў былі проста ідэальныя. Аднак банкаўскага крэдыту на кармы рыбаводам не далі і нагульныя сажалкі апынуліся на паўгалодным пайку. У выніку ўраджай «блакітнай нівы» атрымаўся слабым: усяго вылавілі каля 200 тон рыбы. Большую частку ўжо рэалізавалі ў Мінску, Віцебску і іншых гарадах краіны. Для параўнання, у лепшыя гады ад жадаючых запасціся свежай рыбай адбою не было і вылаўлівалі штогод да 800 тон карпа ў асноўнай спецыялізаванай гаспадарцы вобласці.

## Горыч страты

У ліку першых ў Браславе праз непрыемную працэдуру ліквідацыі вымушаны прайсці калектыў тамтэйшага філіялу Пастаўскай узбуйнёнай друкарні. Іх прадпрыемства, з былога калектыву якога засталося толькі 7 паліграфістаў, дапрацоўвае апошнія дні, а 1 лістапада будзе зачынена. Яшчэ адзін працаўнік звольніўся раней, а бясменны майстар Даната Буйніцкая нядаўна заўчасна памерла, магчыма ў тым ліку і ад перажыванняў. Ды і астатнім

# Правінцыйныя хронікі

***(Паўночны Захад: хронікі і падзеі)***

**наборшчыкам і друкарам балюча ўсведамляць, як справа ўсяго іх жыцця рухнула. Без малога 20 гадоў назад усё было па-іншаму. Друкарня справіла наваселле ў новым тыпавым будынку, абзавялася лепшай тэхнікай на той момант. З'яўленне ж у горадзе тры гады таму прыватнай друкарні толькі паскорыла развязку. З дапатопнай тэхнікай і тэхналогіяй складана выжываць на рынку паліграфічных паслугаў і галаўному прадпрыемству.**

### *Ліс - забойца*

**Амаль ледзь не плакаў жыхар вёскі Навасёлкі - 1, калі на яго вачах раптоўна захварэў, а затым і паў 13 кастрычніка прыгажун-конь. Як выявілася пазней, загінуў ён у выніку захворвання на шаленства, верагодней пасля ўкусу такой жа хворай лісы, якая круцілася непадалёку. Калі ў свеце толькі і гавораць аб небяспецы інфекцый сібірскай язвы, то на Пастаўшчыне ўсур'ёз абвастрылася сітуацыя з шаленствам сярод дзікіх і хатніх жывёл. За некалькі апошніх тыдняў выяўлена 5 захварэўшых братоў нашых меншых: 3 лісіцы, енот і той конь. Ад кантактаў з імі пакутвалі 10 грамадзян. Поўны курс лячэння супраць шаленства прыйшлося прызначыць асобным жыхарам Андрон, Грыдзек, а тэрыторыю вакол вёскі Навасёлкі аб'яўленая неблаганадзейнай па шаленству. Да канца года тут адловяць і знішчаць усіх бяздомных звяркоў-валацугаў і правядуць іншыя неабходныя мерапрыемствы памяшканні ў 6 гаспадарках.**

## *ШТО Ў СУСЕДЗЯЎ?*

### *Гіблае месца*

**З поўным правам ферму «Мацясы», што ў калгасе імя Кірава Глыбоцкага раёна, можна назваць зонай выжывання. Толькі ў мінулым годзе тут пала 78 цялят з трохсот утрымоўваемых галоў маладняка. Зараз за перыяд са студзеня па кастрычнік яшчэ недалічыліся 56 цялушак з-за розных хваробаў і дрэнных умоваў утрымання. Дарэчы, рэгулярныя захворванні, адставанні ў росце і непазбежныя страты ў будучым характэрныя і для калгасаў «Шлях Леніна», «1 Мая», «17 Сентября», саўгаса «Івесь» і іншых, дзе «згублена» па паўсотні і больш галоў жывёлы. Здаецца кармоў для зімоўкі зараз хапае, але ў многіх месцах слаба працуюць. Напярэдадні халадоў літаральна з боем пад націскам начальства з райцэнтра ледзь загналі маладняк у памяшканні ў 6 гаспадарках. Ды і сталкі пад адкрытым небам так схуднелі, што адкарміць іх пасля пераахалоджвання будзе немагчыма, як і пасля марыць пра паўнавартасныя надоі і прывагі.**

### *Дачакаліся тэлефанізацыі*

**На фінішную прамую выйшлі ў Глыбокім работы па пашырэнню гарадской тэлефоннай сеткі на 2900 нумароў. Для жыхароў райцэнтра, стаячых у чарзе на ўстаноўку тэлефона дзесяць і больш гадоў, безумоўна, узрадавала на днях завяршэнне мантажа абсталявання на чатырох новых электронных АТС, здольных абслугоўваць 6500 абаненцкіх нумароў. Адзінкавая нязручнасць, што па меры пераключэння на новыя лініі сувязі ў многіх карыстальнікаў маюцца нумары тэлефонаў у горадзе і ў шэрагу вясковых АТС. Каб пазбегнуць блытаніны, сувязісты падрыхтавалі новы тэлефонны даведнік з усімі зменамі. Арыентыровачна завершыцца пераключэнне абанентаў на новыя АТС ў сярэдзіне лістапада, а з наваголнімі святамі павіншуюць родных і блізкіх усе глыбачане, дачакаўшыеся тэлефанізацыі.**

### *Пахмурны рынак*

**Да пары шэраму золкаму надвор'ю выдалася раніца 18 кастрычніка для двух жыхароў Глыбокага. У першай сям'і ноччу быў угнаны прыпаркаваны ля хаты «Жыгулёнак». Другі пацярпелы аставіў свой «Фольксваген-Пасат» на стаянцы на цэнтральнай плошчы горада ў 9 гадзін раніцы і быў у шоку, калі хутка аўтамабіль дзёрзка ўкралі. Судзячы па почырку, так маглі дзейнічаць толькі члены добра заарганізаванай злачыннай групоўкі, якая пасля гадавога перапынку ізноў заявілася ў гэтых краях. Да гэтага ў райцэнтры, калі ўганяліся аўтамабілі, то толькі па п'янай справе. Розыск па гарачых слядах пакуль што вынікаў не даў. Увогуле да пакою ў грамадстве яшчэ далёка: за першыя дзевяць месяцаў года на Глыбоччыне здзейснена 100 крадзяжоў, з якіх у 80 выпадках развіталіся з маёмасцю жыхары раёна.**

### *Ланцуговая рэакцыя*

**Яшчэ ніколі раней заканчэнне сельскагаспадарчага года ў Глыбоцкім раёне не было**

# Правінцыйныя хронікі

*(Паўночны Захад: хронікі і падзеі)*

такім прыгнятальным і невясёлым. Хіба што ў цяжкія пасляваенныя гады атрымоўвалі ўраджайнасць зерневых у краі ў памерах 15 цэнтнераў з гектара. А калгас імя Свярдлова, адстаючы ўсюды і ва ўсім, увогуле скаціўся да 8 цэнтнераў, як і напачатку мінулага стагоддзя ў самыя недароды. Вострая няхватка грошай і паліва нароўні з паломкамі тэхнікі прывялі да таго, што ў гэтым у мінулым эканамічна моцным раёне ў калгасах «Герой працы», «1 Мая», «Дружба», «Шлях Леніна» і шэрагу іншых гіне на палях бульба і лён, і, верагодна, замерзне кукуруза. Хаця кармоў зараз дастаткова і здаецца запасліся імі на паўтары гады наперад, раптоўна пайшлі ўніз паказчыкі надояў. На пачатку месяца з «мінусам» у параўнанні з 2000 годам працавалі тры гаспадаркі, праз 10 дзён іх стала 6, а па стану на 17 кастрычніка горш мінулагодняга сталі надоі ў 12 калгасах і саўгасах. А зімовы стойлавы перыяд на фермах яшчэ больш пагоршыць становішча...

## Даўгі быццам гіры

Нягледзячы на безперабойны водпуск паліва спажыўцам (упершыню за 7 апошніх гадоў) на ўсіх 15 АЗС, уваходзячых у склад РУП «Крулеўшчынанафтапрадукт», становішча прадпрыемства толькі пагоршылася. Не сакрэт, што раней у перыяд пасяўной ці жніва бензін на яго аўтазапраўках папросту на гэты час знікаў. Цэлы год працавалі без збояў, аднак страт за 7 месяцаў дзейнасці атрымалі 33 млн. рублёў, калі ў 2000 годзе мелі 1 мільярд прыбытку. Натуральна, раённы бюджэт атрымаў толькі 14 працэнтаў мінулагодняй сумы, хаця гэты калектыў у асноўным і ўтрымоўвае бюджэтную сферу Докшыцкага раёна. Пацягнулі ўніз «нафтавых каралёў» даўгі аграрнікаў сямі абслугоўваемых раёнаў, перавысіўшыя 1,5 мільярды рублёў. Верагоднасць іх вяртання ў бліжэйшы час невялікая, а каб пагасіць свае даўгі перад канцэрнам «Белнафтахім» самі залезлі ў доўг. Падобна, што ў самых раней паспяхова працуючых прадпрыемстваў зараз цяжкія часы.

## Двое сутак ляснога палону

Да канца сваіх дзён не забудзе жыхарка вёскі Порплішча, што ў Докшыцкім раёне, тыя дзве халодныя асеннія ночы, што правяла яна ў лясным балоце. Месцы ў гэтых краях спрадвеку грыбныя, і таму з мужам прывычна пайшлі на «ціхае паляванне» і хутка разышліся ў розныя бакі. Потым перасталі перакрыквацца і ўстрывожаны галава сям'і вярнуўся да хаты. Зніклую жанчыну кінуліся шукаць вёскай усю ноч, але тая вельмі далёка адыйшла. На другія суткі пошукаў сляды жанчыны, узятыя спецыяльна абучаным сабакам з Глыбокага, згубіліся ў балоце. Але на шчасце, незадачлівую грыбніцу на трэці дзень пошукаў убачылі ў адной з канаваў, зусім выбіўшуюся з сілаў і сідзячую ў чаканні самага горшага.

## Урок дабрыні

У стаўшай нядаўна агульнай любімцай у дзяным з вальераў Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры» малодзенькай касулі ёсць імя Кася і свая другая мама-выратавальніца. Так, папаўшую ў бяду жывёлу з сямейства мелкіх аленяў назвала шасцікласніца СШ № 2 з Мёраў Анастасся Бунто, усё лета цярпліва даглядаўшая лясную прыгажуню. Маленькая касуля прыбілася да людзей, згубіўшы бароначую яе да драпежнікаў маці. Бацька дзяўчынкі прынёс малышку ростам з зайца да дому, дзе касулю акружылі клопатам і ўвагай. Асабліва даглядала за ёй Насця, карміла звяра праз соску і моцна пасябравала з ёй. На сямейнай нарадзе адпускаць у лес прывыкшую да людзей касулю пабаяліся, каб яна не згубілася ў непрывычных абставінах. Мясцовае таварыства паляўнічых і рыбаловаў і райінспекцыя прыродных рэсурсаў ушанавалі школьніцу за яе ўчынак падарункам і грашовай прэміяй.





***Талібаў шкада: яны ніколі не жылі ў чалавечых умовах, яны бедныя, многія зь іх нават твару жаночага ня бачылі***

# Сусьветная вайна з тэрарыстамі

## *Амэрыканцы ня маюць шанцаў, а талібы — будучыні*

Аўганістан зноў прыцягнуў да сябе ўсеагульную ўвагу. Каб не паўтарыць памылкі, якую ўжо ня раз рабілі іншыя ворагі Аўганістану, амэрыканцы зыходзяць з таго, што адкрытая вайна не прынясе ім перамогі.

І ніякая перавага ў тэхніцы ці людзкой сіле не дапаможа, бо, напрыклад, са 100 тысячаў жаўнераў савецкага войска, якія стаялі ў Аўганістане, у баях бралі ўдзел толькі 15 тысячаў, а астатнія ахоўвалі дарогі, базы, вузлы сувязі і іншыя аб'екты інфраструктуры.

Асобную ўвагу трэба зьвярнуць на «хаўрусьнікаў» ЗША: Пакістан і Іран сёньня на амэрыканскім баку, але ж у іх актывізуюцца моцныя ісламісцкія партыі, а ў Пакістане таксама значная колькасьць пуштунскага насельніцтва. Тэрарыстычная вайна можа распаўзьціся за межы рэгіёну.

Можна, зразумела, войскаў у горы ня слаць, абмежавацца ракетна-бомбавымі ўдарамі. Але эфэкт будзе нулявы — у Аўганістане няма чаго нішчыць, бо там нічога няма наагул. Так, у 1998 г., помсьцячыся за ўзарваныя бэн Ладэнам пасольствы ЗША ў Танзаніі і Кеніі, амэрыканцы выпусьцілі па Аўганістане 80 ракетаў — толькі ў 6 разоў меней, чым па Сэрбіі. А талібам хоць бы што.

У амэрыканскай энцыкляпэдыі, выдадзенай у XIX ст., ёсьць артыкул Фрыдрыха Энгельса пра Аўганістан, які распачынаецца словамі: «Аўганцы ўжо даўно сталі б вялікім народам, калі б ня іхная любоў да свабоды і нянавісьць да ўсялякай цэнтралізаванай улады». Нават калі амэрыканцы перамогуць і, скажам, скінуць талібскі ўрад, цяжка ўявіць, як яны здолеюць упарадкаваць краіну. Гэта ня Косава, тут і насельніцтва шмат больш, і культура іншая. Аўганцы наўрад ці захочуць засвойваць амэрыканскія дэмакратычныя каштоўнасьці. У гэтым сэнсе Аўганістан прымушае ўспомніць Самалі і няўдалую амэрыканскую апэрацыю там на пачатку эры Клінтана.

Талібаў можна толькі пашкадаваць. Большасьць зь іх — маладзёны, што не памятаюць мірнага жыцьця. Яны ня ведаюць нацыянальных традыцыяў і гісторыі, апроч традыцыяў сваёй вёскі, дый ад іх спрабуюць пазбавіцца, калі тыя супярэчаць прымітыўнаму ісламу правадыроў руху. Яны цёмныя нават у параўнаньні з маджагедамі, што ваявалі з СССР і пасьля ўзяцьця Кабулу ў 1992 г. глядзелі з захапленьнем мульцікі зь Мікі-Маўсам у холах нечувана панскіх для гэтых вяскоўцаў гатэляў. Талібы ніколі не жылі ў чалавечых умовах, бо савецкая агрэсія выбіла з каляіны жыцьця яшчэ іхных бацькоў. Многія зь іх наагул выраслі сіротамі на чужыне. Пасьля — прымітыўнае навучаньне, войска, аўтамат. Усё. Многія зь іх твару жаночага ня бачылі, бо аўганскія жанчыны ходзяць цалкам захутаныя, пакідаючы толькі дзіркі для вачэй.

Дарэчы ў Кур'ане ані слова няма пра абавязак жанчынаў закрываць твар: гэтае «дапаўненьне» давялі да «дасканаласьці» ў Аўганістане. Зь цемрашальствам трэба змагацца любымі сродкамі. Нельга толькі апускацца да ўзроўню цемрашала.

**Сяргей Радштэйн.**

# Дзве армії



Пра тое, якой была другая сусветная вайна для савецкага народа і якімі метадамі яна вялася, дапытлівы чалавек, няхай і зусім маладога ўзросту мог ведаць даўно. Таму акрамя афіцыйнай, прыгожай як цукеркавыя абгорткі на новы год праўды пра гэту вайну была і праўда, што расказвалі сваім сынам і ўнукам самі франтавікі і партызаны. Іх цяжка было прымусіць паглядзець які-небудзь «патрыятычны» фільм на экране. Але ў часіну роспачы, узяўшы чарку, яны гаварылі пра гэту праўду. Потым з часамі перабудовы прыйшла да нас праўда аб той вайне і са старонак сродкаў масавай інфармацыі. Пра мільёны і мільёны ваеннапалонных, пра голад і холад, пра неапраўданыя расстрэлы і тупасць генералаў, якія за тысячы жыццяў, кінутых па сваёй прыхаці на верную смерць атрымлівалі чарговыя ордэны. Чаму на захадзе ў кожнай краіне колькасць ахвяр другой сусветнай вайны падлічана ледзь не да аднаго чалавека? А чаму ў нас на афіцыйным узроўні можна назваць дваццаць мільёнаў, а потым дабавіць яшчэ дзесятку, а потым яшчэ… Не таму, што ў нас не ўмелі лічыць. Лічылі. І едакоў на фронце - лішняга нікому не давалі. І пабітых - таксама каб лішняга не даць. Але адносіны да гарматнага мяса былі зусім іншымі.

Мы яшчэ слаба прынялі ў сваю свядомасць вядомыя, але не так як гэта патрэбна вядомыя загады Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Чырвонай Арміі № 270 і загад народнага камісара абароны № 227.

У першым загадзе ёсць такія радкі:

«Абавязак камандіраў і камісараў дывізій неадкладна змяшчаць з пастоў камандзіраў батальёнаў і палкоў, якія хаваюцца ў шчылінах у час бою і якія баяцца кіраваць ходам бою на полі бітвы, зніжаць іх па пасадзе, як самазванцаў, пераводзіць у радавыя, а пры неабходнасці расстрэльваць іх на месцы, высоўваючы на іх месца смелых і мужных людзей з малодшага начсаставу альбо з радоў вызначыўшыхся чырвонаармейцаў».

Што гэта азначае, ведаюць франтавікі. Любы начальнік зверху, прыехаўшы ў распалажэнне часткі ці батальёна не ў добрым гуморы, мог проста застрэліць афіцэра, зняць яго з пасады, аддаць пад трыбунал. Ну а другі загад наркома абароны быў яшчэ жудасней. Ён прадугледжваў фарміраванне на кожным фронце некалькіх штрафных батальёнаў для афіцэраў, а ў арміях да дзесяці рот штрафнікоў для радавых і малодшых камандзіраў. Той, хто трапляў ў гэтыя падраздзяленні мог развітвацца з жыццём, бо кідалі іх у такія месцы, дзе жыць было практычна немагчыма. Адзінкі так званых, змыўшых сваё здрадніцтва крывёй вярталіся на фронт. А хто ж падбіраў у гэтыя штрафныя роты, батальёны? Ды тыя самыя самадуры-камандзіры. Аднаго позірку скосу хапала каб цябе кінулі ў самае пекла на верную смерць. Ёсць у загадзе і такія радкі:

«Сфарміраваць у межах арміі 3-5 добра ўзброеных загараджальных атрады (да 200 чалавек у кожным), паставіць іх у непасрэдным тыле няўстойлівых дывізій і абавязаць у выпадку панікі і беспарадачнага адыходу часцей дывізіі расстрэльваць на месцы панікёраў і трусаў і тым дапамагчы чэсным байцам выканаць свой абавязак перад радзімай».

Вось так, савецкае камандаванне не верыла сваім салдатам, ставіла ззаду іх кулямёты, каб у тых не было выбару. Смерць наперадзе, але смерць і ззаду, толькі калі расстраляюць у загараджальным атрадзе, сям'я застанецца без дапамогі, а то і ў лагер трапіць. Гэта, дарэчы, не нова. Гэта - азіятчына. Там у сярэднявеччы, ды і пазней было менавіта так, наперад кідалі салдат, якія яшчэ ўчора былі сялянамі і рамеснікамі, а ззаду ішлі адборныя, надзейныя, якія першых у атаку і гналі пікамі.

Так, Савецкая Армія вайну з немцамі выйграла. Але гэта быў не еўрапейскі выйгрыш, гэта быў азіяцкі выйгрыш, калі праціўніка проста залівалі крывёй сваіх суайчыннікаў не здольных і не ўмеючых як след ваяваць. Дарэчы, загараджальныя атрады існавалі і ў сорак пятым, калі ўжо нібыта наступалі.

Ну а што стала з сотнямі ваеннапалонных, савецкіх ваеннапалонных, якіх бяздарныя генералы ў першыя і наступныя гады вайны мільёнамі аддавалі ворагу, пакінуўшы без зброі, без камандзіраў, без харчавання. А ўсё вельмі проста. З фашысцкіх канцэнтрацыйных лагераў яны праз нашы фільтрацыйныя так званыя адпраўляліся ўжо ў сібірскія, калымскія, казахскія лагеры.

У Савецкай Арміі ніводзін военачальнік, які б таленавітым ён не быў, і колькі б ні зрабіў дзеля перамогі -

не мог быць гарантаваным ад арышту абвінавачвання ў шпіянажы на карысць буржуазных разведак і нават расстрэлу. Нават намеснік Сталіна ў многім легендарны Жукаў быў «пад калпаком» - кніга «Досье на Маршала» А. Муранава., В. Звягінцава пабудавана толькі на дакументах. Самога маршала знішчыць не пасмелі, адправілі ў ссылку ў Адэскую ваенную акругу, а блізкія да яго генералы былі арыштаваныя, збіваліся, расстрэльваліся. Рэалібітаваныя толькі пасля смерці Сталіна.

Вельмі яскравыя прыклады азіяцкіх парадкаў, якія панавалі ў тагачаснай краіне. Яны вялі свой пачатак ад Залатой Арды. Калі хан палкаводца, які выйграў бітву, але асабіста яму нечым не дагадзіў мог пасадзіць на кол. Пануюць такія парадкі ў напаўазіяцкай Расіі і сёння. А цягнемся ўслед за ёй.

І вось выпадкова трапіла мне ў рукі кніга Дуайта Эйхзенхаўра «Крыжовы паход у Еўропу». Кніга ў нас выдадзена даўна, у 1980 годзе, зразумела сваімі, тагачаснымі па духу каментарыямі… Але каментарыі не могуць захінуць сам дух, сутнасць кнігі.

Генерал Эйзенхаўэр - гэта ў нечым амерыканскі Жукаў, ён камандаваў аб'яднанымі сіламі нашых саюзнікаў у Заходняй Еўропе, таксама прызнаецца як адзін з вядучых военачальнікаў той вайны.

Выключная па сваіх дакументальных сведчаннях кніга. Выйшаўшая яшчэ ў савецкія часы яна не магла схаваць той розніцы, у адносінах да радавога салдата ў саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Вось вытрымка з яе:

«Аднойчы ў мяне была назначана сустрэча з амерыканскімі сенатарамі. Калі яны ўвайшлі ў кабінет, штабны афіцэр уручыў мне тэлеграму, у якой гаварылася, што ў адным газетным артыкуле сцвярджаецца, нібыта ў лагеры «Лакі Страйк» стварыліся невыносныя ўмовы. У артыкуле паведамлялася, што лагер бітком набіты людзьмі, кормяць іх дрэнна, жывуць яны ў антысанітарных умовах, звяртаюцца да іх без усялякіх спачуванняў і разумення. А справы абстаялі якраз наадварот. Усім вызваляемым з палона амерыканцам аўтаматычна прадастаўляўся адпачынак для паездкі ў Злучаныя Штаты і мы выдзелілі спецыяльна падабраную групу афіцэраў, якія займаліся гэтымі пытаннямі».

І Эйзенхаўэр з сенатарамі на самалёце вылецеў па ўказанаму адрасу. Сенатары мелі магчымасць у лагеры ўбачыць тысячы вызваленых з нямецкага палону амерыканскіх салдат. Усё ў лагеры аказалася наадварот. Былі толькі два пытанні. Першае - харчаванне. Ежа была добрай якасці і гатавання, толькі ўрачы не дазвалялі ўжываць соль, перац, вострыя прыправы, бо гэта небяспечна для людзей, якія галадалі месяцамі ў нямецкім палоне. Другое, людзі хацелі як найхутчэй выехаць у Злучаныя Штаты. Справа ў тым, што асноўная частка тагачасных суднаў не была разлічана на перавозку пасажыраў. На іх не было кухні, туалетаў, санвузлоў. Салдаты, былыя палонныя, не ведалі пра гэта і злаваліся, калі бачылі, што порты пакідаюць амаль пустыя судны і камандванне пайшло насустрач былым ваеннапалонным. Іх папрасілі згадзіцца ўдвая загружаць судны, каб адзін палонны па дарозе спаў, а другі чакаў сваёй чаргі для адпачынку.

Што, будзем параўноўваць з нашымі дашчатымі «кароўнікамі», у якіх везлі нашых былых ваеннапалонных і зусім не дадому, а ў новыя сібірскія лагеры.

Увогуле, адносіны да прэсы на вайне ў нашых заходніх саюзнікаў былі проста дзіўныя. Яшчэ адна вытрымка з кнігі Эйзенхаўэра:

«У зносінах з прадстаўнікамі прэсы амерыканская практыка зводзілася да таго, што даваць любую магчымасць рэпарцёру ісці куды і калі заўгодна. Хаця гэта і дастаўляла нам некаторыя дадатковыя адміністрацыйныя клопаты, але такі прынцып добра апраўдваў сябе, паколькі кожны пераконваўся, што мы не робім ніякіх спроб хаваць свае памылкі. Калі такія і выяўляліся, то іх хутка можна было ўхіліць»

Што тут можна сказаць, калі сталінскія ўлады ў час вайны хавалі не толькі ад паслухмяных і баязлівых карэспандэнтаў, але і ад усяго насельніцтва цэлыя ваенныя катастрофы і здачу цэлых тэрыторый ворагу.

І яшчэ адзін прыклад з кнігі Эйзенхаўэра. Быў у яго войсках генерал Паттон, нешта накшталт нашаму Чарняхоўскаму - майстар удараў, наступлення. Лідэр. У час паездкі па шпіталях ён у адным убачыў двух салдат без яўных фізічных паражэнняў. Салдат адказаў, што ў яго нешта з нервамі. Генерал лічыў, што калі нервы, то можна ударам прывесці салдата ў пачуццё і заставіць выконваць свае абавязкі. Сам генерал быў узбуджаны пад уздзеяннем сцэн мучэнняў параненых і ён зняважыў салдата словамі. Ударыў па галаве салдата так, што каска ўпала далоў. Была вялікая пагалоска. Толькі цудам славуты генерал, жыццёва патрэбны для правядзення аперацыі па ўварванню ў Італію застаўся на сваім месцы.

Такія вось параўнанні.

Нехта скажа: ды што там тыя амерыканцы наваявалі. Як бы ні ваявалі, але палову Еўропы вызвалілі. І самае галоўнае, страты ў той вайне панеслі самыя мінімальныя. І ветэраны іхніх баёў у Еўропе, потым дзесяцігоддзі не гнаілі зямлю ў Сібіры, на Урале, у Казахстане. Іхнія былыя ваеннапалонныя ад самага канчатку вайны годна ішлі ў шэрагах пераможцаў.

Нехта пагудзіць: ну, паглядзім, як яны цяпер ваююць, такія далікатныя з ісламскімі экстрэмістамі. Невядома як, магчыма, і з пераменным поспехам. Але лішняй крыві ліць не будуць і «вінаватых» гнаць у лагеры таксама.

***Алесь Касцень***

Радыё Свабода

час
18:00–19:30
22:00–23:30
06:00–07:00

# ГРОШЫ – У ПЕЧ!



***Сама аперацыя па замене наяўных грошай абыйдзецца ў мільярды еўра. Толькі ў Германіі затраты складуць прыкладна 1,9 мільярды марак (каля 2 мільярда еўра).***

Пакуль вядучыя дызайнеры скурагалантэрэі думаюць над тым, як бы навытанчаней аформіць новыя кашалькі для адзінай еўравалюты, а таксама падлічваюць магчымыя барышы ад попыта на партманэты, банкіры еўразоны занятыя больш празаічнымі думамі - куды дзець дзесяткі тон банкнот і вагоны манет, каторыя з новага году не будуць уяўляць сабой ніякай каштоўнасці.

Сапраўды, Еўропу чакаюць вялікія ўзрушэнні, а начальства Цэнтрабанкаў - галаўная боль: што зрабіць з выходзячымі з моды маркамі, франкамі, гульдэнамі і іншымі шылінгамі.

За пяць месяцаў да паступлення ў абарот еўра цэнтральныя банкі краін ЕС ужо клапоцяцца па прычыне ўтылізацыі нацыянальных грашовых знакаў. Сцвярджаць, што гэта праблема абсалютна новая, не прыходзіцца. Гісторыя грашовага абарачэння назапасіла вялікі досвед таго, як наступаць са зношанымі купюрамі - іх забіраюць і знішчаюць.

Але адна справа, калі працэс адбываецца паволі, і абсалютна іншая, калі задачу трэба рэалізоўваць адначасова на вялікай тэрыторыі ( а еўралэнд - гэта ўсё ж такі дванаццаць дзяржаваў з насельніцтвам пад трыста мільёнаў). У дадзены момант асобныя друкарскія фірмы Еўропы займаюцца падрыхтоўкай да ўводу наяўнай еўра ў студзені 2002 года. Да гэтага тэрміну падрадчыкам трэба надрукаваць 14 млрд. банкнот рознай годнасці. Аперацыя ва ўсіх адносінах варта Кнігі рэкордаў Гінэса.

Дык што ж рабіць з нацыянальнымі грашамі? Міліярды банкнот і больш 100 тыс. тон (10 Эйфелевых вежаў) манет - з усім гэтым, вядома ж, з захоўваннем найстражэйшых працэдур, давядзецца развітацца адначасова з тым, як грамадзяне адзінай Еўропы пачнуць расплочвацца за бензін і памперсы адзінымі грашамі.

Па гэтаму паралельна з тым, як друкарскія станкі ў розных краінах днём і ноччу штампуюць універсальныя еўрагрошы, у абстаноўцы сакрэтнасці распрацоўваюцца планы ўтылізацыі.

Камерцыйныя банкі Францыі, напрыклад, асцерагаючыся, што вялізарная колькасць грошай, якія будуць збірацца, а затым адпраўляцца ў Цэнтральны банк для знішчэння, можа вызваць вялікую зацікаўленасць рабаўнікоў, запасаюцца спецыяльнымі машынамі, каторыя будуць прабіваць у купюрах дзіркі і такім чынам указваць на тое, што яны выведзены з ужытку. Занепакоенасць не марная - прадугледжваецца, што да 28 лютага 2002 года ў абарачэнні будуць паралельна ўжывацца і еўра і нацыянальныя валюты.

А ў Германіі Бундэсбанк рыхтуецца да ператварэння ў попел каля 2800 тон нямецкіх марак. Працэдура шматстадыйная: перад гэтым усе банкноты будуць прапушчаныя праз машыну для знішчэння дакументаў, каб збавіць ад спакусаў тых супрацоўнікаў банка, якія будуць паліць грошы. Дарэчы гэты працэс ніяк не паўплывае на павышэнне тэмпературы навакольнага свету. Калорыі ад згарання грошай будуць выкарыстоўвацца для харчавання саміх «ланцар'эак». Такі вось «вечны рухавік».

Прыхільнікі экалагічна чыстага асяроддзя, перажываюць, што Еўропа задыхнецца ад рознакаляровых дымоў, прапаноўваюць яшчэ больш мудрагелістыя праекты. Напрыклад, выкарыстоўваць папяровую «лапшу» для будаўнічых матэрыялаў, а то і для камноста.

Манеты ж на «лапшу» не пасячэш. Іх збіраюцца пераплавіць, прычым частка з іх, магчыма пойдзе на чаканку еўра.

Грандыёзны эксперымент, дарэчы, ужо прынёс некаторыя расчараванні. У той жа Германіі, напрыклад, надрукавалі партыю з 325 млн. банкнот вартасцю 100 еўра. Але вось незадача - выявілася, што кожная банкнота утрымоўвае нейкую недакладнасць, якая не стасуецца з зацверджаным узорам і робіць усю партыю несапраўднай.

Зараз усе гэтыя паперы падлягаюць знішчэнню, а замест іх будзе надрукавана новая партыя, што абыйдзецца ў 30 млн. нямецкіх марак. Але гэта не больш, чым кветачкі. А смак ягадак, магчыма прыйдзецца адчуць не толькі жыхарам еўралэнда. Трэба, ці не, казаць, што некаторыя з валют еўрапейскіх краін атрымалі шырокае распаўсюджванне не толькі ў сябе на радзіме. Узяць хаця б нямецкую марку. У многіх Балканскіх краінах і рэгіёнах са невыразным статусам (Косава, напрыклад) нямецкімі маркамі можна расплаціцца паўсюдна - у гатэлях, крамах - яны прыраўняныя ў ранг нацыянальных. Па інфармацыі брытанскай «Файнэншыл таймс», амаль 40 працэнтаў усей нямецкай наяўнасці - а гэта ні многа ні мала 104 млрд.марак - знаходзяцца ў абароце за абшарамі ФРГ. Для іх нават прыдумалі спецыяльны тэрмін - «матрасныя грошы». Як іх будуць мяняць - невядома, але ажыятаж чакаецца жудасны. Змягчыць удар, магчыма, тое, што па сведчанню той жа газеты, амаль трэціна насельніцтва Чарнагорыі, Косава, Босніі і Герцэгавіны не ведаюць аб рыхтуючымся абмене. Але мы ж у курсе і, напэўна, своечасова падмітусімся, каб потым не псаваць акружаючага наваколля разнакаляровымі дымамі.

***Міхаіл Бялецкі, «Кур'ер»№4, 2001 г.***
***Пераклад Міхала Гіля***

# БЕДНЫЯ МЫ, БЕДНЫЯ



**17 кастрычніка быў адзначаны Міжнародны дзень барацьбы зь беднасьцю. Цяпер разуменьне беднасьці ня то, што было сто гадоў таму, за панскім часам. А беднасьць у Беларусі - зусім ня тое, што беднасьць у Нямеччыне. Зь іншага боку, беларуская беднасьць - зусім ня тое, што беднасьць у Нямеччыне. Зь іншага боку, беларуская беднасьць - зусім ня тое, што афрыканская ці казахская, дзе людзі часам ня маюць самага неабходнага.**

У Еўропе заможнасьць пэўнага рэгіёну цяпер вызначаецца па забясьпечанасьці кампутарамі - звычайнымі і з выхадам у Інтэрнэт - і сотавымі тэлефонамі. У нас і першыя, і другія па-ранейшаму рэдкая зьява. Паводле апошніх зьвестак, на тысячу беларусаў прыпадае ўсяго 11 сотавых тэлефонаў. Што праўда, ва Ўкраіне - 5, у Расеі - 10, але ж у Літве - 91, а ў Эстоніі - 269. А ў фінаў, якія маюць сваю фірму «Матарола» - ажно 651 мабільнік на тысячу чалавек. Інтэрнэтызаваных кампутараў у Беларусі сьмешныя 1.6 штукі на тысячу. (Ва Ўкраіне 1.3 штукі, у Арменіі - 0.9, у Расіі - аж 3.5, у Літве каля 9, у Польшчы - 12. А ў Ісландыі, якая ідзе першай, мы адстаём у 125 разоў).

Кампутар наагул маецца толькі ў 3 % беларусаў. Чвэрць нашых суайчыньнікаў маюць відэамагнітафоны, трохі больш за палову - магнітафоны, 60 % - пыласосы, 70 % - пральні, 90 % - тэлевізары, 98 % - лядоўні. Усё збольшага беларускае або савецкае, яшчэ даперабудовачнае.

На новыя грунтоўныя пакупкі трэба зьбіраць месяцамі. Бо, паводле афіцыйных зьвестак, сярэднямесячны заробак «чыстымі» (без падаткаў) у Беларусі ў жніўні склаў каля 130 тыс. рублёў. Гэта каля 90 даляраў. У ахове здароўя, мастацтве, адукацыі, культуры, сацыяльным забесьпячэньні, сельскай гаспадарцы гэты паказчык яшчэ ніжэйшы. Таму, каб пазьбегнуць беднасьці, многія беларусы вымушаныя працаваць на паўтары-дзьве стаўкі. І гэтыя сярэднія 90 даляраў яны атрымліваюць не за адну стаўку, а за чорную працу з раньня да ночы.

Праўда шмат хто падрабляе ў «шэрым сэктары», неафіцыйна, ня плацячы падаткаў і не трапляючы ў статыстыку. Эксперты Міністэрства статыстыкі лічаць, што рэальны сярэдні заробак у Беларусі прынамсі ў паўтара разу больш за афіцыйна - статыстычны.

Мінімальны спажывецкі бюджэт на адну душу для сям'і з чатырох чалавек пры гэтым складае 85 тыс рублёў (прыкладна 57 доляраў). Гэта значыць, што больш за траціну беларусаў жыве ніжэй нават за беларускі парог беднасьці.

Сярэдні бюджэт беларускай сям'і цяпер такі (зьвесткі Мінстату): на харчаваньне ідзе 51 %, на адзеньне, бялізну і абутак - 21 %, на прадметы побыту і гаспадаркі - 8 %, на побытавыя паслугі і транспарт, аплату жыльля і камунальных паслугаў - па 7 %, на лекі - 3 %. У Беларусі прынята лічыць, што сям'я, якая выдаткоўвае на харчаваньне больш за 30 % ад сваіх даходаў - бедная. За бедных таксама ўважаюцца тыя, хто жыве на меней як 30 даляраў у месяц (даляр на дзень). Такіх беларусаў болей за палову.

У сельскай мясцовасьці бедных болей, чым у гарадах: ніжэй пражытковага мінімуму тут жывуць адпаведна 60 % і 40 % насельніцтва. Што да геаграфіі, дык самая благая сытуацыя на Віцебшчыне (45 % жыхарства тут бядуюць), адносна добрая - у Менску (25 %).

Пры вялікай беднасьці ў нас малое беспрацоўе. На 1 верасьня ў Беларусі было афіцыйна зарэгістравана 103.3 тыс беспрацоўных. Такім чынам, узровень беспрацоўя ў нас 2.3 %. Ва ўсходніх абласьцях - Віцебскай і Магілеўскай - яно складае 3 %, найменшае яно ў сталіцы - 1.5 %.

Нарэшце, пра багатых беларусаў. Гэткімі можна лічыць тых, хто плаціць падаткі па самай высокай шкале ў 30 %. Такіх у Беларусі - 3 %.

***Мікола Бугай, «Наша Ніва № 43, 2001г.***

ГАВОРЫЦЬ ВІЛЬНЯ
Міжнародны беларускі радыёпорт "Балтыйскія Хвалі"
У дыяпазоне сярэдніх хваляў, 612 kHz, 490 м
Штодня зь сямі раніцы да паўночы:
Радыё Свабода
Радыё Рацыя
Балтыйскія Хвалі
Палёнія
ЖАДАЕМ ВАМ ПРЫЕМНАГА СЛУХАНЬНЯ

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840 г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі.

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяваньні нашых сяброў